ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# ПРАБЛЕМАТЫЗАЦЫЯ ЖАНОЧАГА ЦЕЛА Ў ТЭКСТАХ СУЧАСНЫХ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІЦ

ТАЦЦЯНА ФІЦНЕР

***Анатацыя:*** У артыкуле разглядаюцца асобныя творы сучаснай беларускай жаночай прозы, у якіх прадстаўлена жаночая цялеснасць. Прасочваецца адметнасць выяўлення жаночай цялеснасці (сэксуальнасці як аднаго з яе праяўленняў) у тэкстах прадстаўніц сучаснай беларускай жаночай прозы.

***Ключавыя словы:*** сучасная беларуская жаночая проза, цялеснасць, сэксуальнасць, мацярынства, нормы патрыярхатнага грамадства.

# PROBLEMATISATION OF THE FEMALE BODY IN THE TEXTS OF THE MODERN BELARUSIAN WOMEN WRITERS

***Abstract:*** Separate works of the modern Belarusian female prose presenting female physicality are analysed. The article traces the peculiarity of the female physicality (sexuality as one of its manifestations) in the texts of the modern Belarusian women writers.

***Keywords:*** Modern Belarusian Female Prose, Physicality, Sexuality, Motherhood, Norms of Patriarchal Society.

Адным з найбольш значных дыскурсаў сучаснасці з'яўляецца дыскурс цялеснасці. Аднак можна канстатаваць факт адсутнасці падобных даследаванняў у айчынным літаратуразнаўстве. Пры гэтым беларуская літаратура падае дастатковую колькасць тэкстаў для аналізу. Мастацкае асэнсаванне феномена жаночай цялеснасці можна назіраць у творчасці сучасных беларускіх пісьменніц. Нас цікавіць, наколькі ў творах пісьменніц, якія не пазіцыянуюць сябе як феміністкі і не імкнуцца наўмысна ствараць постструктуралісцкія тэксты, выяўляецца падсвядомае супраціўленне ўсталяваным у грамадстве нормам, што прадпісваюцца жаночай цялеснасці.

У сучаснай жаночай прозе можна вылучыць некалькі **аспектаў,** звязаных з рэпрэзентацыяй жаночага цела.

**Па-першае,** гэта абуджэнне жаночай сэксуальнасці, якое кожная з аўтарак выяўляе адметна. Наталка Бабіна падае гэта як непазбежнасць, якая прыходзіць у свой час: *"Яна поўнілася маладосцю, як поўніцца сілай жолуд увосень, як поўніцца вадою рака ўвесну... усё гаварыла: я жывая, я моцная, я шчаслівая, я чакаю..."* (Бабіна, 2007: 75). Алена Брава абуджэнне жаночай сэксуальнасці падае як пераасэнсаванне галоўнай гераіняй, беларускай ("Каменданцкі час для ластавак"), засвоеных на радзіме стэрэатыпаў праз набыццё ўласнага вопыту, праз разуменне рознасці культурных экспектацый грамадства, што прад'яўляюцца да паводзін полаў у Беларусі і на Кубе. Алеся лічыла, што *"каханне ёсць радасная гатоўнасць да ахвяры"* (Брава, 2004: 41), а яна сама – *"орган", прызначаны выключна дзеля "ягонага" задавальнення"* (Брава, 2004: 42). І толькі праз гады зразумела выказванне мужа-кубінца, што *"акрамя радасці даваць... існуе яшчэ радасць атрымліваць асалоду"* (Брава, 2004: 42).

Адзін з **акцэнтаў** праблемы жаночай сэксуальнасці – асэнсаванне яе як адрознай ад мужчынскай. Немагчымасць сумясціць Вялікае Каханне і праяўленне адметных мужчынскай і жаночай сэксуальнасцей становіцца ў выніку трагедыяй для гераіні А. Брава ("Менада і яе сатыры"): *"Калі ён быў у ложку, побач з ёю, ёй і ў галаву не прыходзіла атрымаць якую-кольвек уцеху для сябе: гэта было гэтак жа немагчыма, як адшчыкнуць кавалак паднесенага ідалу ахвярнага ягняці..."* (Брава, 2008: 49). Фармулюючы сваё "простае жаночае жаданне" – "каб з'явіўся рыцар", бо *"нават моцным патрэбныя рыцары"* (Навіш, 2009: 189), гераіня Міраславы Навіш урэшце адкрывае для сябе простую ісціну: *"Усе мае інтэлектуальныя пошукі заканчваюцца асэнсаваннем фізіялогіі кахання... На сметнік надзею паразумецца!"* (Навіш, 2009: 189).

**Па-другое,** гэта праблема пошуку жаночай суб'ектыўнасці, адрознай ад той, якую навязвае жанчыне грамадства. Таму ў гераіні Евы Вежнавец *"крыза ідэнтычнасці"*, якую яна спрабуе пераадолець: *"Хто я – не-*

*далюбленая нічыйная жанчына? Нарцыс? Андрагін? Недалесбійка, перагетэрасэксуалка?..”* (Вежнавец, 2008: 99). Гераіні Е. Вежнавец, а гэта, як правіла, сучасныя беларускія інтэлектуалкі, не падтрымліваюць традыцыйныя пола-ролевыя стэрэатыпы, у прыватнасці стэрэатып “слабай жанчыны”, не цікавяцца “жаноча-мужчынскімі справамі”, бо хочуць *“радасці і свабоды, а не размнажэння ў няволі”* (Вежнавец, 2008: 99). Можна канстатаваць, што такім чынам у творах пісьменніцы выяўляецца пратэст супраць размеркаваных у грамадстве роляў, адведзеных пэўнаму полу, супраць стэрэатыпаў жаноцкасці, характэрных патрыярхатнаму грамадству.

**Па-трэцяе,** гэта праблема знешнасці жанчыны і лішняй вагі яе цела. Арыентацыя гераінь Н. Бабінай на разрэкламаваную норму “90-60-90” выяўляе іх падсвядомую ўстаноўку на цялесную прыгажосць, на прывабнасць для супрацьлеглага полу. Таму яны балюча рэагуюць на мужчынскую крытыку ў іх адрас (*“у цябе тлустая спіна”* (Бабіна, 2007: 45)). Адначасна такая крытыка выклікае ў іх пратэст (*“Вядома, я тлустая. Якой яшчэ маю быць, нарадзіўшы пяцёра дзяцей?”* (Бабіна, 2007: 45)), які скіраваны не супраць біялагічнага прызначэння жанчыны, а супраць нормаў, што прад’яўляе да знешнасці жанчыны сучаснае грамадства і культура. Такім чынам, асэнсаванне **мацярынства** – гэта **чацвёрты аспект** рэпрэзентацыі жаночай цялеснасці, што адметна і неадназначна выяўляецца ў мастацкім свеце сучасных беларускіх пісьменніц.

Так, у творах Н. Бабінай можна вылучыць наступныя **акцэнты** асэнсавання мацярынства:

– мацярынства – своеасаблівае алібі для тлустай гераіні: я маці, я выканала сваю біялагічную функцыю, таму маю права выглядаць як заўгодна (“Дамачкі сярэдніх гадоў”).

– трываласць грамадскага стэрэатыпа, згодна з якім сэнс жыцця жанчыны бачыцца адно ў мацярынстве і губляецца з немагчымасцю рэалізаваць гэтую прыродную функцыю (“Дамачкі сярэдніх гадоў”).

– праблематызацыя паняцця “пазашлюбнае мацярынства” (“Зроблена рукамі Альбіны Юдчыц”): *“Маці перастала са мной размаўляць адразу пасля таго, як я паведаміла ёй, што ў мяне будзе дзіця”* (Бабіна, 2007: 136). Маці гераіні з’яўляецца носьбітам патрыярхатных нормаў, якія “не прымаюць” дзіця па-за шлюбам.

– руйнаванне стэрэатыпа жанчыны-маці, якая “дае жыццё і аберагае яго”. Гераіня апавядання “Блокпост” вырашае не нараджаць дзяцей: *“А ў мяне дзяцей не было, і я не ведаю, што такое раджаць... Я тройчы рабіла аборты”* (Бабіна, 2007: 134). Такі выбар жанчыны – своеасаблівы асабісты пратэст, пры гэтым пісьменніца ніякім чынам не выяўляе свае адносіны да выбару гераіні.

У творах А. Брава знаходзім крыху іншыя **акцэнты** асэнсавання мацярынства:

– немагчымасць сумясціць мацярынскае і творчае. Пытанне “адвечнай песні” жанчыны, калі патрэбна *“раздзірацца напалам паміж Божым і жаночым у табе, паміж дарам і абавязкам...”* (Брава, 2004: 94), вырашаецца на карысць мацярынства.

– мацярынства як праблема ўзаемаадносін жанчыны і яе цела: *“Маё цела – частка таго свету, ад якога я хацела б залежаць як мага меней... Зараз я навучылася супрацьстаяць свавольству гэтай біямашыны, а ў юнацтве яна кіравала мной і рабіла, што хацела...”* (Брава, 2012: 70).

Мацярынства як “смирительная рубашка” – такі **акцэнт** знаходзім у Е. Вежнавец. Для Тэрэзы Змушка (“Лялечка – балетніца – каралева – сплетніца”) мацярынства ёсць тое апошняе, што засталося, *“каб канчаткова не згубіць сябе ў нясkладным жыцці”* (Вежнавец, 2008), каб нейкім чынам “прывыкнуць” да жыцця пасля няўдалых спроб змяніць яго і скроіць па ўласных лякалах. Гераіня не ў стане адмяніць прынятую ў грамадстве сістэму каардынат, яна вымушана адпавядаць палавой норме, выконваць адведзеную ёй грамадствам ролю, нават калі зусім не згодная з такім станам рэчаў. Гераіня М. Навіш, будучы ўжо маці, адкрывае для сябе падобную “ісціну”: *“Так прыходзіць усведамленне сваёй жаночай існасці. Так адбываецца вяртанне. Маўкліва-тужлівае вяртанне да сябе самой. Вяртанне праз разгубленасць і сумненне. Праз ростані...”* (Навіш, 2009: 202). Першапачатковы пратэст гераіні і пошук свайго “я”, як бачым, разбіваецца аб усведамленне біялагічнай функцыі жанчыны як асноўнай для яе самасцвярджэння ў патрыярхатным соцыуме.

Падсумоўваючы, зазначым, што сучасныя беларускія пісьменніцы, па-мастацку асэнсоўваючы жаночую цялеснасць, у пэўнай ступені разбураюць легітымны вобраз жаночага цела, што ўкладваецца ў традыцыйныя ўяўленні пра жаноцкасць.

### ***Бібліяграфія***

1. Бабіна, Наталка (2007). *Крыві не павідна быць відна.* Мінск: І. П. Логвінаў.

2. Брава, Алена (2004). *Камендацкі час для ластавак: аповесці, апавяданні.* Мн.: Мастацкая літаратура.

3. Брава, Алена (2008). “Менада і яе сатыры”, *Маладосць,* № 9: 24–56.

4. Брава, Алена (2012). “Рай даўно перанаселены”, *Маладосць,* № 1: 31–70.

5. Вежнавец, Ева (2008). *Шлях дробнай сволачы.* Мінск: Логвінаў.

6. Навіш, Міраслава (2009). “Адна”, у *Пакахай мяне, калі ласка…: зборнік сучаснай жаночай беларускай прозы.* Мінск: Кнігазбор.
7. Навіш, Міраслава (2009). “Ёсць мера любові”, у *Пакахай мяне, калі ласка…: зборнік сучаснай жаночай беларускай прозы.* Мінск: Кнігазбор.